**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 14 (835) 7 красавіка 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





Фота Ул. Скрабатуна

Красавік! Надышоў час фарбаваць бардзюры?



















## У Віцебску затрыманы чацвёра мужчын, якія займаліся падробкай даляраў

**Упраўленне СК па Віцебскай вобласці расследуе крымінальную справу, узбуджаную ў адносінах 4 жыхароў горада Віцебска, па ч.1 арт. 221 Крымінальнага кодэкса Беларусі.**

– Фігурантам – мужчынам ва ўзросце ад 20 да 41 года прад'яўлена абвінавачванне, да іх ужыта мера спынення ў выглядзе зняволення пад варту, – паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па рэгіёне Іна Гарбачова.

Гэтыя грамадзяне са снежня 2015 года па студзень 2016 года ажыццявілі збыт грашовых квіткоў наміналам $ 50 на агульную суму $ 1 850 – 37 купюр. Яны былі выраблены з сапраўдных шляхам змены іх наміналу.

Усе падробкі былі выяўлены ў банках, бо грамадзянам адрозніць фальшыўку ад сапраўднай купюры няпроста.

*http://finance.tut.by*









ISSN 2077-8023



### Полацкі раён

# Станцыя расце на вачах

■ Чэслаў Якубовіч.

**Нягледзячы на эканамічныя праблемы, у Беларусі працягваецца выкананне важнай дзяржпраграмы "Энергазберажэнне", у рамках якой узводзіцца цэлы каскад ГЭС на рацэ Заходняя Дзвіна.**

Дагэтуль самай буйной гідраэлектрастанцыяй краіны была такая станцыя ля Гродна магутнасцю 17 МВт. Але ўжо ў наступным годзе гэты статус адбярэ ў гродзенцаў новая Полацкая ГЭС магутнасцю 21,66 МВт, што дазволіць ёй штогод вырабляць больш 112 млн. кВт-гадзін электраэнергіі і эканоміць дзясяткі тысяч тон паліва на яе выпрацоўку. Гэты грандыёзны праект ажыццяўляе РУП "Віцебскэнерга" і ён, як і атамная станцыя ў Астраўцы, усё болей набывае закончаныя формы. Перад надыходам вясны на будучай ГЭС ужо закончылі асноўныя бетонныя работы, а гатоўнасць аб'екта да ўводу ў эксплуатацыю перавысіла 71 %. Амаль што гатова і гіганцкая плаціна зліва вады магутнага гідравузла з пяццю гідраагрэгатамі і трубамі. Гэта неабходна было зрабіць для далейшага мантажу асноўнага абсталявання, якое будзе працаваць з вялізным аб'ёмам вады. Наблізіліся да завяршэння і работы па ўзвядзенні вадасховішча будучай ГЭС, 12 яго аб'ектаў ужо здалі ў эксплуатацыю, працягваецца праца на двух апошніх комплексах. Будаўнікі ўзвялі таксама неабходныя лініі электраперадач і сувязі з энергасістэмай. Дарэчы, актыўна вядзецца цяпер будаўніцтва і яшчэ больш магутнай станцыі на гэтай рацэ. Аднак Віцебскую ГЭС магутнасцю ўжо 40 МВт запланавана запусціць у эксплуатацыю ў 2019 годзе.

### Пастаўскі раён

# Надакучыла жыць?

■ Кастусь Александровіч

**Цяперашнія жыццёвыя цяжкасці непараўнальныя з тымі, якія пераносілі раней людзі старэйшага пакалення, нашы продкі.**

Сучасная моладзь па розных прычынах зусім не цэніць дар зямнога жыцця, што і пацвердзіла серыя самагубстваў за некалькі дзён на тэрыторыі Пастаўскага раёна. Не паспелі парадавацца ў мясцовым аддзеле пагранічнай службы, што іх Смаргонскую пагрангрупу Дзяржпагранкамітэт Беларусі прызнаў лепшай у краіне па аператыўна-службовай дзейнасці, як здарылася надзвычайнае здарэнне. Падчас нясення службы на пагранічнай заставе "Лынтупы" з табельнай зброі застрэліўся сяржант тэрміновай службы, якому да звальнення ў запас заставалася служыць толькі два месяцы. Прычынай гэтага суіцыду сталі, на жаль, матывы асабістага характару, а дакладней нешчаслівае каханне. Разрыў са сваёй каханай дзяўчынай гэты хлопец так і не здолеў перажыць. Роўна праз тыдзень пасля інцыдэнту на заставе пагранічнікаў у гарпасёлку здарылася новая бяда. Там у гаражы закрыўся і павесіўся 35-гадовы мужчына. Ён раней жыў у Мінску, але "прагарэў" ягоны бізнес, утварыліся даўгі ў памеры 70 тысяч еўра. Прыйшлося прадаць кватэру, каб вярнуць частку даўгоў, а яшчэ навaліліся праблемы з непад'ёмнымі крэдытамі. Апошняй кропляй, якая падштурхнула да трагедыі, стаў для яго развод з жонкай за трое дзён перад гэтым. Яшчэ адзін малады пастаўчанін таксама павесіўся ў гаражы пасля таго, як міліцыя затрымала яго за рулём пасля выпіўкі на свята 8 сакавіка і выпісала буйны штраф, паўстала пытанне канфіскацыі аўто…

### Ушацкі раён

# Занадта дарагое мяса

■ Станіслаў Раманчук.

**Быццам усе і ведаюць, што не трэба ігнараваць закон і станавіцца браканьерам, аднак многія па-ранейшаму парушаюць заканадаўства аб ахове прыроды.**

Аднак з мінулага года адказнасць за незаконнае паляванне сур'ёзна павысілася, на чым пагарэлі адразу некалькі жыхароў Ушацкага раёна. Суд ужо пакараў 52-гадовага беспрацоўнага жыхара райцэнтра 2 гадамі пазбаўлення волі ўмоўна, а ў дадатак прысудзіў 42 млн. рублёў штрафу з канфіскацыяй паляўнічай стрэльбы. Увогуле гэты браканьер мог адправіцца за краты на тэрмін да 6-ці гадоў, але яшчэ перад пачаткам судовага пасяджэння добраахвотна заплаціў яшчэ 54 млн. рублёў за забітую самку аленя. А спачатку начная паездка на машыне знаёмага ў лес складвалася для яго ўдала. У лясным гушчары жыхар Ушач застрэліў жывёліну, але на сваю бяду стрэлы пачуў паляўнічазнаўца. Браканьер не паспеў раздзелаць тушу і кінуўся наўцёкі, як убачыў чалавека ў форме. Неўзабаве затрымалі вадзіцеля, які чакаў свайго знаёмага, а сам браканьер прайшоў пяшком дамоў 30 км, але гэта не выратавала яго ад непрыемнасцей. Віну яшчэ трох мясцовых гора-паляўнічых неўзабаве ўстановіць суд. Яны застрэлілі лася паблізу трасы на Мінск, а спрабавалі забраць тушу пад покрывам цемры, але патрапілі ў засаду, калі грузілі мяса ў машыну. Ім пагражаюць таксама вялізныя штрафы і нават да 3-х гадоў турмы.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 07.04.16 | | | | Пятніца 08.04.16 | | | | Субота 09.04.16 | | | | Нядзеля 10.04.16 | | | | Пан. 11.04. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +6 | +6 | +14 | +11 | +10 | +11 | +14 | +14 | +9 | +9 | +17 | +15 | +12 | +13 | +16 | +14 | +12 | +12 | +17 |
| Ціск | 742 | 745 | 745 | 746 | 746 | 745 | 742 | 740 | 741 | 740 | 739 | 740 | 741 | 742 | 743 | 744 | 745 | 746 | 746 |
| Вецер м/сек | 3 | 3 | 6 | 5 | 5 | 6 | 6 | 3 | 4 | 4 | 5 | 5 | 5 | 2 | 2 | 3 | 3 | 5 | 4 |
| | З | Ю-З | Ю-З | Ю | Ю | Ю | Ю | Ю | С-В | В | Ю | Ю | Ю | Ю-В | Ю-В | В | В | В | В |
| Вільготнасць | 86 | 92 | 58 | 72 | 78 | 71 | 79 | 88 | 92 | 95 | 65 | 74 | 83 | 89 | 82 | 88 | 94 | 92 | 68 |

# Аб самым надзённым

## БЕЛАРУСЫ ЗАЖЫВУЦЬ КРЫХУ ЛЕПШ, КАЛІ Ў НАС ЗАКОНЧЫЦЦА ЭКАНАМІЧНЫ КРЫЗІС І АЖЫВЕ РАСІЙСКІ РЫНАК



■ Аляксандр Цішкевіч.

**На жаль, перспектывы заканчэння эканамічнага крызісу ў Беларусі туманныя, праблемы могуць расцягнуцца на некалькі гадоў, пакуль спад і рэцэсія не закончацца і не пачнецца паступова эканамічны ўздым.**

У пачатку сёлетняй вясны, як вядома, беларусы даведаліся пасля нарады, якая прайшла ў Мінску на дзяржаўным узроўні, што краіну неўзабаве чакае павышэнне пенсійнага ўзросту. Урад прапанаваў некалькі варыянтаў выхаду на адпачынак з паэтапным павышэннем такіх тэрмінаў для жанчын нават у 60 гадоў, а для мужчын – у 65. Эксперты сцвярджаюць, што такая мера патрэбная, але яна спазнілася гадоў так на 10. Раней для насельніцтва такія вострыя сацыяльныя пераўтварэнні былі б меней балючымі, чым цяпер. Не сакрэт, што Беларусь пачала перажываць глыбокі эканамічны спад, які працягваецца і сёлета.

Па дадзеных статыстыкі, з пачатку года ў студзені-лютым ВУП краіны зменшыўся яшчэ на 4 %, хоць улады намячалі ў канцы снежня яго рост на 0,3 %. Такія працэсы, якія ідуць ужо другі год запар, выклікаюць непазбежнае змяншэнне даходаў суайчыннікаў, не толькі зарплат, але і пенсій, іншых дапамог. А калі падае пакупніцкая здольнасць насельніцтва, то цяжкасці ў беларускіх вытворцаў толькі павялічваюцца, а разам з імі змяншаюцца магчымасці дзяржбюджэту на сацыяльныя выплаты. У краіне пачаўся рост беспрацоўя, калі на рынку працы намячаюцца значныя змены, але і для моладзі новых працоўных месц ствараецца мала, асабліва ў глыбінцы.

Справа ў тым, што яшчэ каля мільёна беларусаў працуюць цяпер на маларэнтабельных і стратных прадпрыемствах, у многіх з якіх існуюць запазычанасці па выплатах у Пенсійны фонд. У іх работнікаў у будучым будуць праблемы з афармленнем працоўных пенсій, бо не будзе хапаць страхавога стажу, які неўзабаве дасягне 20 гадоў. Дарэчы, і зараз амаль паўмільёна грамадзян Беларусі, па дадзеных Белстата, жывуць з даходамі ніжэй бюджэту пражытковага мінімуму.

Наша краіна, у адрозненне ад суседзяў, апошнія два дзесяцігоддзі, не праводзіла ніякія эканамічныя рэформы, а старалася фактычна захаваць тыя прадпрыемствы, якія засталіся ад СССР, а таксама калектыўную форму гаспадарання на зямлі. У выніку, мы і атрымалі значныя цяжкасці, якія паўсюдна адчуваюцца, бо ўводзіцца рэжым строгай эканоміі сродкаў, праводзяцца розныя аптымізацыі, ліквідацыі, скарачэнні персаналу. На гэтым фоне нашы заводы і фабрыкі за 2 месяцы выпусцілі прамысловай прадукцыі на 121,5 трлн. рублёў. Аднак з гэтай масы тавараў значная колькасць засталася непрададзенай на складах, і ўвогуле іх выпуск скараціўся яшчэ на 5,6 % у параўнанні з мінулым няпростым годам.

На жаль, перспектывы заканчэння эканамічнага крызісу ў Беларусі туманныя, праблемы могуць расцягнуцца на некалькі гадоў, пакуль спад і рэцэсія не закончацца і не пачнецца паступова эканамічны ўздым. І вось тут ад нас, беларусаў не ўсё будзе залежыць, хоць мы зажывём лепш, калі сусветныя цэны на нафту пачнуць павышацца. Але ж галоўны фактар перамен – не гэты. Наша краіна шмат у чым залежыць ад становішча спраў на асноўным сваім рынку збыту ў Расіі. Пакуль жа сітуацыя ў нашых усходніх суседзяў не выклікае аптымізму. Да нармалізацыі адносін Крамля з Захадам вельмі далёка. А без гэтага не адменяць санкцыі супраць РФ, найбольш значныя з якіх доступ расіян да заходніх рынкаў капіталу, тэхналогій і інвестыцый.

Пакуль жа ў нашай краіне мы ўбачылі, як нашы ўлады крыху асадзілі назад у пытанні рэзкага павышэння тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі. Яшчэ нядаўна ўсім абяцалі, што ў канцы 2018 года насельніцтва стане аплочваць 100% кошту такіх паслуг. Аднак за народ у чарговы раз заступіўся А. Лукашэнка, правёў некалькі нарад і заявіў, што такое павышэнне можа быць, у залежнасці ад таго "как люди будут жить". Глава дзяржавы назваў новыя тэрміны высокіх сум ЖКГ магчыма ў 2020 і ў 2025 годзе. З лютага кошт аплаты камуналкі крыху, сапраўды, знізіўся, але ўсім нам трэба рыхтавацца, што за кватэру сям'я павінна будзе выкласці суму ў сярэднім у эквіваленце 30-35 долараў у месяц.

З іншага боку наіўна разлічваць на рост рэальных даходаў, зарплат і пенсій не толькі сёлета, але і ў наступным годзе. Эканамічная сітуацыя ў Беларусі падобная не дазваляе, як і ўмовы нашых крэдытораў з Расіі і МВФ. Аднак у любой з'яве ёсць, як адмоўныя, так і станоўчыя моманты. Вось і Нацбанк Беларусі знізіў базавую стаўку рэфінансавання да 24 % гадавых. Для большасці з нас гэта азначае, што гадавая інфляцыя не будзе шалёнай, застанецца на прымальным для беларускіх рэалій узроўні.

Паколькі беларусы сталі зарабляць меней, іх даходы зніжаюцца, то і многім вытворцам прыйдзецца зніжаць цэны, бо інакш іх тавары мала хто купіць. Таксама і прадстаячая замена грошай не пагражае ў такім выпадку дэвальвацыяй новага беларускага рубля, калі ўжо ў сярэдзіне лета акрамя банкнот з'явяцца і манеты. За долар будзем аддаваць у раёне двух з нечым беларускіх грашовых адзінак. Праўда, на еўрапейскім кантыненце мы застаёмся аднымі з самых бедных, жыць на шырокую нагу, як у недалёкім мінулым, ужо не атрымаецца. Наадварот прыйдзецца лічыць кожную капейку, эканоміць, бо ў нас даволі дарагія і прадукты харчавання, а эканамічны крызіс працягваецца.

## Дзень за днём

**Беларусь паабяцала хуткае спрашчэнне свайго візавага рэжыму. А. Лукашэнка знізіў шэраг тарыфаў ЖКГ. У большасць рэгіёнаў краіны завезлі грошы новага ўзору з манетамі для ўвядзенне ў абарачэнне з 1 ліпеня. За год беспрацоўных беларусаў стала болей у 1,4 разы. За 2 месяцы ў краіне ўзвялі толькі 8,2 тыс. кватэр, аб'ёмы жыллёвага будаўніцтва імкліва падаюць. Значна скараціліся грашовыя пераводы з Расіі ў Беларусь. Польшча будзе спрашчаць візавыя працэдуры для беларусаў. За чвэрць стагоддзя сярэднегадавая тэмпература ў Беларусі пацяплела на 1-2 градусы.**

## Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Услед за арыштам арганізатара тэрактаў у Парыжы С. Абдэсмана ў Брусэлі адбыліся 3 выбухі ў аэрапорце і ў метро з дзясяткмі загінулых і сотнямі параненых.

**Расія.** Рупар Крамля, адыёзны віцэ-спікер Дзярждумы РФ У. Жырыноўскі заявіў на тэлеканале "Расія", што нам выгадныя тэракты ў Еўропе і хай яны там падыхаюць.

**Дубаі.** Першы ў эміратах самалёт авіякампаніі Fly Dubai "Боінг 737-800" разбіўся ноччу ў аэрапорце Растова-на-Доне з-за ўраганнага ветру пра заходзе на пасадку, ніхто не выжыў.

**Турцыя.** Прэзідэнт Р. Эрдаган заклікаў Міжнародны крымінальны суд у Гаагe судзіць жорсткага дыктатара Сірыі Б. Асада за забойства ў краіне паўмільёна чалавек.

**Расія.** Як і чакалася, суд прызнаў украінскую лётчыцу Н. Саўчанка нібыта вінаватавай у забойстве расійскіх журналістаў, сам судовы працэс у ЕС і ЗША лічаць незаконным.

**Бельгія.** ЕС заклікаў Расію неадкладна вызваліць лётчыцу і дэпутата Н. Саўчанка "без нейкіх умоваў" па гуманітарных прычынах і згодна з мінскімі дамоўленасцямі.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка заявіў, што ўкраінцы ніколі не прызнаюць ганебнае судзілішча над Саўчанка краіны-агрэсара ў стылі Вышынскага-Сталіна, за яе ўвесь свет.

**Германія.** Лаўрэат Нобелеўскай прэміі С. Алексіевіч назвала прысуд Н. Саўчанкі не проста злачынствам улад Расіі, а іх вар'ятцтвам ад адчування сваёй беспакаранасці.

**Грузія.** Сусветна знакаміты балетны калектыў "Сухішвілі" станцаваў ля расійскага пасольства ў Тбілісі на знак салідарнасці з палонный украінскай лётчыцай Н. Саўчанка.

**Расія.** Аглядальнік "Эхо Москвы" А. Арэх заявіў, што нікога прыгаворам Саўчанка РФ не пакарала, акрамя самой сябе, выбрала дарогу поўнага развалу, разлажэння і распаду.

**Кітай.** Па выніках 2015 года даўгі кітайскіх кампаній выраслі яшчэ на 1,2 трлн. USD, у краіне пайшлі масавыя неплацяжы за тавары і паслугі, на 20 % - рост банкруцтваў.

**Куба.** Упершыню за апошнія 88 гадоў дзеючы прэзідэнт ЗША Б. Абама наведаў з афіцыйным візітам краіну, каб надаць новы імпульс нармалізацыі двухбаковых адносін.

**КНДР.** Новыя жорсткія санкцыі ААН, як папярэдзіў вучоны-карэявед К. Асмолаў, яшчэ больш пагоршаць узровень жыцця ў адной з самых бедных і закрытых краін свету.

**Расія.** Міністр працы і сацабароны РФ М. Тапілін пацвердзіў, што за год на 3 млн. чалавек прыбавілася колькасць беднякоў, за рысай беднасці жывуць ужо 20 млн. расіян (13 %).

**Украіна.** У горадзе Запарожжа знеслі самы вялікі ў краіне 25-метровы помнік Леніну, устаноўлены ў 1964 годзе, з моманту дэкамунізацыі прыбралі ўжо 504 манументы ідалу.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Набыло моц рашэнне аб збіранні падаходнага падатку з кароткатэрміновых укладаў насельніцтва



■ Дзмітрый Заяц, БелаПАН

**Працэнтны даход, налічаны па новых кароткатэрміновых рублёвых і валютных укладах насельніцтва, з 1 красавіка абкладаецца падаходным падаткам (13%). Гэта прадугледжана дэкрэтам № 7, які быў прыняты ў лістападзе 2015 года.**

Згодна з дакументам, пад падаткаабкладанне падпадаюць даходы па новых валютных укладах з тэрмінам размяшчэння менш за два гады і працэнты па рублёвых дэпазітах з тэрмінам размяшчэння менш за год.

Нагадаем, дэкрэт № 7, асноўныя палажэнні якога набылі моц у лістападзе 2015 года, таксама падзяліў усе банкаўскія ўклады на два віды — адзыўныя (з правам датэрмінова забраць грашовыя сродкі) і безадзыўныя (тэрміновыя ўклады, уладальнікі якіх не маюць права забраць грашовыя сродкі да заканчэння тэрміну іх размяшчэння).

Да прыняцця дэкрэта максімальная працэнтная стаўка па рублёвых укладах насельніцтва складала 30% гадавых, па валютных — 5% гадавых. Пасля прыняцця дэкрэта беларускія банкі знізілі даходнасць па адзыўных рублёвых укладах да 20—25% гадавых, па валютных адзыўных — да 4%.

Варта адзначыць, што пасля ўваходжання ў сілу нормаў дэкрэта ў банкаўскай сістэме назіраецца паступовае зніжэнне тэрміновых валютных укладаў насельніцтва. За лістапад—люты іх аб'ём знізіўся амаль на 300 млн. долараў да 7,55 млрд. долараў на 1 сакавіка.

Скарачэнне тэрміновых рублёвых укладаў насельніцтва ў Беларусі назіраецца з сярэдзіны 2015 года. На думку беларускіх эканамістаў, разам са зніжэннем даходнасці па ўкладах, да чаго прывялі ў тым ліку нормы дэкрэта № 7, скарачэнне дэпазітаў насельніцтва абумовілі і іншыя фактары.

«Даходы насельніцтва ў рэальным выражэнні істотна знізіліся, і на гэтым фоне цалкам магчыма, што людзям даводзіцца траціць свае зберажэнні для падтрымання пэўнай якасці жыцця», — лічыць эксперт Беларускага эканамічнага даследчаадукацыйнага цэнтра Кацярына Барнукова.

Аналітыкі фінансавага рынку не прагназуюць у 2016 годзе росту банкаўскіх укладаў насельніцтва. На думку экспертаў, прывабнасць банкаўскіх дэпазітаў у вачах насельніцтва можа нават знізіцца з 1 красавіка, калі працэнтныя даходы фізічных асоб з кароткатэрміновых банкаўскіх укладаў (рублёвых — на тэрмін да года, валютных — на тэрмін да двух гадоў) пачнуць абкладаецца падаходным падаткам.

«Даходнасць па ўкладах з улікам будучага падаткаабкладання працэнтаў будзе зніжацца. Перадумоў для павышэння працэнтных ставак па рублёвых укладах не праглядаецца, паколькі Нацбанк прытрымліваецца жорсткай грашова-крэдытнай палітыкі. Акрамя таго, даходы насельніцтва не растуць. Таму пакуль не бачна фактараў, якія маглі б спрыяць росту дэпазітаў у банкаўскай сістэме», — канстатуе эканаміст Антон Балточка.

## Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Сустаршыня канфедэрацыі прадпрымальнікаў В. Маргелаў заявіў, што арышты бізнесменаў Чыжа і Баскіна негатыўна адаб'юцца на абстаноўцы ў цэлым па краіне.

**Магілёў.** Праз тыдзень адсідкі ў СІЗА КДБ Беларусі выйшаў пад дамашні арышт глава кампаній "Сервалюкс" Я. Баскін, ён кампенсаваў суму прад'яўленага ўрону дзяржаве.

**Мінск.** У еўрапейскіх сталіцах разумеюць, як пацвердзіў палітолаг А. Класкоўскі, што лепш незалежная Беларусь пры ўсіх яе хібах, чым танкі Пуціна на Бугу.

**Гомель.** КДБ Беларусі абверг хлусню расійскіх СМІ аб нібыта магчымым дачыненні беларусаў да тэрактаў у Брусэлі, адзін з братоў Доўбашоў быў у той дзень у горадзе.

**Бабруйск.** Партнёры і былыя падначаленыя не вераць у віну экс-дырэктара мясцовага мясакамбіната А. Ісайчанкі, якога судзяць за дагаворы з фірмамі РФ і іх даўгі.

**Курапаты.** Глава МЗС Польшчы В. Вашчыкоўскі заявіў, што польскі і беларускі народы калісьці былі ахвярамі адной імперыі, нам трэба палепшыць сяброўскія кантакты і сувязі.

**Ваўкавыск.** Пры атрыманні чарговага хабару ў 15-ты раз за заключэнне дагавору на пастаўку запчастак затрымалі намесніка дырэктара адной з гаспадарак раёна.

**Мінск.** Міністэрства культуры Беларусі вырашыла стварыць спецыяльную камісію па разгляду дзейнасці творцаў і вызначаць, ці з'яўляюцца яны мастакамі альбо "дармаедамі".

**Магілёў.** Падчас праверкі кампаніі, якая займалася закупкамі і продажам бычкоў у Расію, фінансавая міліцыя арыштавала яе дырэктара па падазрэнні ў нявыплаце падаткаў.

**Баранавічы.** З-за недахопу заказаў большасць прамысловых прадпрыемстваў горада другі год працуюць па скарочаным графіку, заробкі ў рабочых і служачых знізіліся.

**Смалявічы.** Вечарам з-за парушэнняў правіл эксплуатацыі ў вёсцы Задомля ўзарваўся адзін з двух ацяпляльных катлоў і разбурыў будынак кацельні мясцовай фермы.

**Брэст.** Суд пакараў 19-гадовага матацыкліста 1,5 гадамі турмы за наезд на мужчыну на пешаходным пераходзе і пакіданне ў небяспецы пацярпелага, бо скрыўся з месца ДТЗ.

**Шчучын.** Ураджэнец горада, забойца і рэцыдывіст А. Агрэніч пахваліўся радыё "Свабода", як даслужыўся да капітана "ДНР" і забіў больш сотні ўкраінскіх "фашыстаў".

**Ашмяны.** Расійскі спявак Ф. Кіркораў паскардзіўся А. Лукашэнка на беларускіх мытнікаў, якія доўга не прапускалі яго групу і 4 фуры абсталявання для сцэны на граніцы з Літвой.

**Мінск.** Праслаўлены біятланіст В. Сашурын пацвердзіў, што ў зборнай Беларусі ёсць праблемы з зарплатамі, а Д. Домрачавай будзе вельмі складана выйсці на свой узровень.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На абласным семінары-вучобе міністр сельскай гаспадаркі Беларусі Л. Заяц папярэдзіў кадры АПК аб неабходнасці дабіцца зніжэння сабекошту прадукцыі на 25 %.

**Орша.** На працягу месяца галоўны агранам адной з гаспадарак раёна скраў са склада больш 28 тон мінеральных угнаенняў на 144 мільёнаў рублёў, але злачынства ўдалося раскрыць.

**Полацк.** З-за недахопу сыравіны і з-за іншых вытворчых цяжкасцей мясцовы малочны камбінат перайшоў з 1 красавіка на рэжым працы няпоўнага працоўнага тыдня.

**Лёзна.** Пытанні веснавой сяўбы абмеркавалі на выязной калегіі аблсельгасхарча ў райцэнтры, яшчэ не былі гатовы да выхаду ў поле 20 % тэхнікі ў гаспадарках вобласці.

**Орша.** УУС аблвыканкама пацвердзіла, што п'яны інспектар ДАІ, які збіў на пешаходным пераходзе вучаніцу 8 класа, будзе звольнены з міліцыі без права на аднаўленне на службе.

**Браслаў.** Ля пункта пропуску "Урбаны" на граніцы з Латвіяй расійская кампанія "Татнафта" адкрыла сучасную АЗС з магазінам, яшчэ адну запраўку ў Полацкім раёне.

**Сянно.** Пасля закрыцця завода кармавых дабавак, лазні, службы КБА і школы-сада ў буйной вёсцы Новая Обаль пустуюць ужо 10 добраўпарадкаваных кватэр і 2 катэджы.

**Наваполацк.** Суд Першамайскага раёна Віцебска пакараў раней судзімага гараджаніна 11 гадамі турмы за захоўванне і спробу збыту 48 тысяч фальшывых долараў.

**Руба.** Пажылыя жыхары гарпасёлка паскардзіліся на "прамую лінію" ў аблвыканкам на рэзкае павышэнне тарыфаў за наведванне лазні, такія скаргі былі і з Віцебска, Оршы.

**Паставы.** Падчас міжнародных чытанняў "Гісторыя ў імя міру" ў райцэнтры адкрылі мемарыяльную дошку памяці героям Першай сусветнай вайны, тут фронт стаяў 2 гады.

**Глыбокае.** Майстры клуба "Крыніца" цэнтра традыцыйнай культуры і народнай творчасці пацвердзілі званне "народнага", выстава мастака В. Дудкевіча запрацавала ў Паставах.

**Віцебск.** Пераможцам юніёрскага Кубка IBU па біятлоне ў агульным заліку стала Дар'я Блашко, яе аднагодка Віктар Крыўко стаў чэмпіёнам Еўропы па біятлоне ў 2-х гонках.

**Навалукомль.** Камера відэаназірання ў мясцовым рэстаране зафіксавала, як вечарам 54-гадовая гардэробшчыца выцягнула з кішэні курткі кліента купюру 100 долараў.

**Браслаў.** Днём ля магазіна "Еўраопт" вадзіцель "Опеля" не заўважыў пенсіянерку і наехаў на 83-гадовую жанчыну, на шчасце, на малой хуткасці, нанёс ёй сінякі і драпіны.

**Наваполацк.** З-за даўгоў перад камандай у суме 2 мільярды рублёў футбольны клуб "Нафтан" з першай спробы не атрымаў ліцэнзію для ўдзелу ў чэмпіянаце РБ па футболе ў вышэйшай лізе.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па матэрыялах інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# У палове раёнаў Беларусі заробак апусціўся ніжэй за $200 «чыстымі»

**Белстат апублікаваў дадзеныя аб сярэдніх заробках у рэгіёнах Беларусі за люты 2016 года.**

Самымі багатымі ў чаргговы раз аказаліся Салігорскі раён і Мінск, дзе сярэдняя лічба заробкаў склала каля 9,5 мільёнаў рублёў.

Калі ж перавесці ў даляры і адкінуць падаткі, на руках у работнікаў засталося $383 у Салігорскім раёне і $376 у сталіцы.

Што да самых бедных раёнаў, сумніўнае першынство захоўвае **Шаркоўшчынскі раён**, дзе заробкі не дацягваюць нават да 4 мільёнаў рублёў «бруднымі». На руках у насельніцтва заставалася толькі $159 «чыстымі».

Услед ідзе Ушачскі раён — $165 «чыстымі».

Усяго ж у палове раёнаў Беларусі сярэдні заробак апусціўся ніжэй за $200 «чыстымі».

***Ягор Марціновіч***




**Чыста не там, дзе прыбіраюць, а там, дзе не смецяць! На здымку: ратавальнікі ОСВОДа прыбіраюць возера Кагальнае ад смецця, якое пакінулі яшчэ ўзімку на лёдзе няўдзячныя рыбакі, альбо маладзёны, папіваючы "піўко" на набярэжнай і кідаючы бутэлькі не ў сметніцы, а ў возера.** *Фота Леаніда Юрыка.*

# У Брытаніі мінімальны заробак павышаецца да $1 625 у месяц

**У Брытаніі ўступілі ў сілу новыя правілы, якія павышаюць з 1 красавіка мінімальны заробак па краіне для работнікаў старэйшых за 25 гадоў да ўзроўню 7 фунтаў 20 пенсаў (10,35 даляраў) за гадзіну.**

Такім чынам, мінімальная зарплата пры поўнай занятасці (35-гадзінны рабочы тыдзень) у краіне складзе крыху больш за 13 тысяч 600 фунтаў у год, або 1134 фунты (1625 даляраў) у месяц.

Паводле ацэнак спецыялістаў, гэтая мера прывядзе да неадкладнага павышэння аплаты працы 1,3 мільёна брытанцаў.

Рашэнне аб увядзенні новага мінімуму было прынята мінулым летам, з мэтай павысіць агульны ўзровень аплаты працы і знізіць залежнасць нізкааплатных супрацоўнікаў ад бюджэтных дапаможнікаў.

Для маладых людзей ва ўзросце ад 21 да 24 гадоў, тым не менш, мінімальная зарплата застанецца фіксаванай на ўзроўні 6 фунтаў 70 пенсаў (9,6 даляра) у гадзіну.

Да 2020 года мінімум плануецца падняць да больш чым 9 фунтаў (12,9 даляра) у гадзіну.

***Бі-бі-сі***

# "Запаролі" кітайцы, перарабляць нам!

Гледзячы на Youtube розныя "серыялы" па тэме "Самыя грандыёзныя збудаванні свету", мы даведваемся, што такіх унікальных збудаванняў у Кітаі, мо не меней, а болей, чым у іншых краінах. Хмарачосы, вантавыя масты над пралівамі па некалькі кіламетраў даўжыні, высакагорныя чыгункі… Гэта значыць, ствараецца ўражанне, што Кітай – вяршыня ўсіх сучасных тэхналогіяў.

Але на бытавым узроўні штораз чуеш, асабліва аб рэчах купленых на рынку: *"Ды выкіні, ты, гэтае кітайскае барахло!"* Такі, вось, кантраст тэхналогій!

Сёння на вуліцы сустрэў свайго стрыечнага пляменніка, які працуе інжынерам-энергетыкам, ды будуе ЛЭП па Беларусі. Пытаю: "Ну, як, дзе працуеш?"

– *Перарабляем пасля кітайцаў узведзеную імі ЛЭП у Пастаўскім раёне. Гэтая ЛЭП будзе ў сістэме ліній Астравецкай АЭС. "Запаролі" кітайцы 50 падмуркаў да металічных ЛЭП. Зрабілі цяп-ляп… Гэта ж такая ўмова была – Кітай дае грошы на ЛЭП, кітайскія рабочыя яе і ўзводзяць! Узвялі! Цяпер нашы будаўнікі перарабляюць нанова за кітайцамі, праўда, ізноў за іх грошы!*

Падумалася, а калі саму АЭС зробяць цяп-ляп? Пэўна, ужо яе потым – крый, Божа, – не будзе каму перарабляць!

***Ул. Скрабатун.***

# Кошт на звадкаваны газ для насельніцтва падвышаны на 20,4%

**Гэта ўжо другое падвышэнне кошту ў сакавіку гэтага года.**

Адпаведнае рашэнне зацверджана пастановай Міністэрства эканомікі ад 22 сакавіка 2016 года № 14, апублікаваным сёння на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, перадае БелаПАН.

Паводле дакумента, 1 красавіка кошт на газ звадкаваны для запраўкі газавых балонаў аб'ёмам 1 л (0,4 кг), 5 л (2,0 кг), 12 л (5,0 кг), 27 л (11,4 кг), які рэалізоўваецца насельніцтву, павялічваецца з 5.400 да 6.500 рублёў за 1 кг.

Падвышэнне коштаў на звадкаваны газ у малалітражных балонах не датычыць звадкаванага газу, які рэалізуецца насельніцтву ў балонах аб'ёмам 50 літраў (21 кг), кошты на які рэгулююцца Саветам міністраў Беларусі.

Раней кошты на звадкаваны газ павялічваліся 1 снежня 2014 гады ў 2,1 раза і на 1,2% у сакавіку гэтага года.

***БелаПАН.***

# На пошце адсвяткавалі 20-гадовы юбілей

**На глыбоцкай пошце прайшлі ўрачыстыя мерапрыемствы з нагоды 20-х угодкаў Віцебскага філіяла РУП "Белпошта".**

На гэтай урачыстасці – граматамі і каштоўнымі падарункамі – былі ўганараваныя школьнікі, пераможцы XX Беларускага моладзевага конкурсу сачыненняў эпісталярнага жанру па тэме "Напішы ліст самому сабе 45-гадоваму".

Апроч гэтага былі ўганараваныя і лепшыя сельскія паштальёны, якія ў дождж, спёку і снежную завею даносяць пенсіі, лісты і газеты сваім кліентам у любую аддаленую вёску Глыбоччыны.

***Ул. Скрабатун.***



# Асцярожна! Пажаранебяспечны перыяд!!!

## За непрыбраную тэрыторыю на грамадзяніна можа быць накладзены штраф да 25 б.в

На вуліцы ўсталявалася ўстойлівае цёплае надвор'е, ужо падсохла леташняя трава, гаручае смецце на тэрыторыі аб'ектаў і каля жылых дамоў. Штогод у гэты перыяд можна назіраць выпаленыя адхоны дарог, выпаленыя тэрыторыі і нават часткова згарэлыя вёскі. І гэта вясна не стала выключэннем, ужо працаўнікі Глыбоцкага РАНС не адзін раз прыцягваліся на тушэнне загаранняў сухой расліннасці, смецця, гарэнне якіх пагражала пабудовам грамадзян. Варта разумець, што прычынай узнікнення ўзгарання сухой расліннасці можа паслужыць нядбайна кінуты недакурак, развязанае вогнішча не па правілах.

Да прыкладу, летась у Глыбоцкім раёне ад сухой расліннасці адбыўся пажар у **в. Міхалі**, Падсвільскага с/с, дзе 10 красавіка ў выніку гарэння сухой расліннасці полымя распаўсюдзілася на згаральныя канструкцыі дома. У выніку пажару пашкоджаны дом, знішчана частка надворных пабудоў размешчаных на тэрыторыі дадзенага домаўласніцтва.

У мэтах папярэджання пажараў і гібелі людзей напачатку красавіка месяца стартавала прафілактычная акцыя "За бяспеку разам", якая гэтак жа накіраваная на папярэджанне вясновых палаў. І каб пазбегнуць магчымых пажараў, неабходна правесці ачыстку тэрыторый ад сухой травы і іншага гаручага смецця. Дарэчы, паводле артыкула 21.14 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях, за непрыбраную тэрыторыю можа быць накладзены штраф, як на грамадзяніна да 25 б.в., так і на юрыдычную асобу да 100 б.в. Таксама неабходна правесці мерапрыемствы, якія выключаюць магчымасць пераходу агню на дачныя ўчасткі, тэрыторыі населеных пунктаў з лясных масіваў і палі з сухой расліннасцю (правесці абворванне). Рэкамендуецца правесці гутаркі з дзецьмі па папярэджанні пажараў ад дзіцячага свавольства з агнём.

Пры правядзенні рэйдаў па населеных пунктах мноства парушэнняў выяўляецца пры распальванні вогнішчаў і спальванні смецця, таму будзе не лішнім нагадаць патрабаванні да раскладвання вогнішчаў:

- пляцоўка для вогнішча павінна быць абкапана і забяспечана сродкамі тушэння (ёмістасць з вадой, вогнетушыцель, рыдлёўка);
- вогнішча дапушчаецца распальваць на адлегласці не меней за 10 м ад будынкаў (збудаванняў), 30 м ад сцірт сена і саломы. Мангалы дапушчаецца размяшчаць на адлегласці не меней за 4 м ад будынкаў (збудаванняў);
- не рэкамендуецца разводзіць вогнішча ў ветранае надвор'е, а тасксама спальваць у ім смецце, якое пры гарэнні вылучае таксічныя і небяспечныя рэчывы;
- таксама забараняецца кідаць вогнішча без нагляду. Пасля таго як вогнішча патухла, неабходна переканацца ў адсутнасці тлення, праліць рэшткі вадой ці прыкапаць зямлёй;
- на тэрыторыі прадпрыемстваў і ўстаноў забараняецца разводзіць вогнішчы.

Што ж датычыць палаў сухой расліннасці, то паводле артыкула 15.57 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях, за выпальванне сухой расліннасці, травы на корані, а гэтак жа пажніўных рэштак на палях накладаецца штраф ад 10 да 40 б.в., такі ж штраф накладаецца і за непрыняцце мер па тушэнні.

Толькі строгае выкананне і своечасовае выкананне вышэйпералічаных патрабаванняў пажарнай бяспекі дазволіць пазбегнуць пажараў і іх разбуральных наступстваў у вясьнова-летні пажаранебяспечны перыяд.

***Інспекцыя нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага РАНС***

# Рычардаў кут

**"Лёс на кані не аб'едзеш", – кажуць у народзе. Мабыць, ён і наканаваны вышэйшымі сіламі, альбо на яго ўздзейнічаюць планеты, пад знакам якіх нараджаецца чалавек. Але відавочна, што чалавечы лёс залежыць не столькі ад суб'ектыўных прычын, калі штосьці можна выправіць, колькі ад аб'ектыўных абставін, калі ўжо нічога зрабіць немагчыма. Страшней за ўсё – гэта войны, у выніку якіх ламаюцца людскія лёсы і пераможцаў, і пераможаных.**



■ **Людміла Ардынская,**
*в. Радзюкі, Шаркоўшчынскі р-н*



**Дом, пра які піша Людміла Ардынская захаваўся да нашых дзён.** *Фота Змітра Лупача*

У верасні 1939 года Заходняя частка Беларусі, якая знаходзілася пад уладай Польшчы, увайшла ў склад Савецкай Беларусі. Прыйшла новая ўлада, да якойпераможаныяаднесліся па-рознаму. Пратрымалася яна нядоўга, але пасля Вялікай Айчыннай вайны ўсталявалася назаўсёды. Прадоўжылася замацаванне канфіскаванай у 1939 годзе ўласнай маёмасці: адміністратыўных будынкаў, прыватных крамаў і лавак, у тым ліку, габрэйскіх, рамесніцкіх майстэрняў, аптэк, прыватных жылых дамоў.

Мой аповед пра Глыбокае, пра падзеі, аб якіх я даведалася ад родных і знаёмых людзей, сведкай якіх была сама. Адразу ў першы пасляваенны год у "хлебную" Заходнюю Беларусь, дзе зямля яшчэ заставалася прыватнай уласнасцю, хлынулі патокі людзей з усходняй Савецкай Беларусі, Украіны, Расіі, перажыўшыя жудасную вайну, напаўраздзетыя, галодныя. Я асабіста ведала сем'і салдацкіх удоў з дзецьмі на руках. Пайшлі з жыцця і яны, і дзеці, засталіся нашчадкі. У Глыбокім, Паставах, Шаркоўшчыне для іх знаходзілася нейкая праца, але многія асядалі ў сельскай мясцовасці. Працавалі ў гаспадароў на хутарах. З падпаскаў і нянек пятнаццацігадовыя дзеці ішлі потым на калгасныя фермы.

Асобнай часткай прыезджых быў кантынгент службоўцаў, спецыялістаў, накіраваных на працу ў розныя сферы дзейнасці: савецкія, партыйныя і праваахоўныя органы, фінансы, медыцыну, асвету, культуру, лёгкую прамысловасць, гандаль, транспарт.

Янка Купала пісаў у вершы:

*І будзе ўнукаў панаванне,*
*Там, дзе сягоння плача дзед.*

Гэтае "панаванне" прыйдзе, ой, як няхутка. Мясцовыя кіруючыя пасады не займалі. Нават цяпер па прозвішчах жыхароў Глыбокага бачна, хто мясцовы, а хто – не тутэйшы.

Кадры засялялі ў лепшыя дамы. Цэлы квартал дамоў у закапанскім архітэктурным стылі па вуліцы Вольнай насялялі службоўцы міліцыі, пракуратуры, фінансаў, ваенкамата, работнікі асветы. Нейкім чынам уважылі майго стрыечнага дзеда, ён працаваў конюхам у міліцыі.

У сямі будынках па вуліцы Савецкай, якія схаваліся ў зяленіне дрэў, у прыгожым месцы на беразе возера Вялікае размяшчаўся Дом дзіцяці. Існаваў ён каля дзесяці гадоў, потым яго вывезлі ў Расоны. Казалі, гэтыя будынкі належалі Глыбоцкай гміне.

Наогул, прыватных дамоў у Глыбокім было канфіскавана шмат, у тым ліку, і па маёй роднай Савецкай. Аднапавярховыя, двухпавярховыя з мезанінамі. Гаспадары, мабыць, з'язджалі ў Польшчу. Што тычыцца габрэйскай уласнасці, то яе гаспадары загінулі ў гета. У некаторых дамах гаспадароў пакідалі, выдзяляючы ім такую жылую плошчу, як і падсяленцам.

Вось у такім доме па вуліцы Савецкай нарадзілася я ў першы пасляваенны год. Прыйшла ў свет марознай снежнай зімой пад сузор'ем Стральца ў той гістарычнай частцы цяперашняга горада, якая калісьці належала роду Корсакаў.

*Прыйшла ў свет, зіма студзіла,*
*Бог удыхнуў душу паэткі.*

Сапраўды, я напішу пра Глыбокае, мой родны горад, шмат вершаў. Самы пазнейшы верш "Рычардаў кут", які стаў мне замест бацькоўскага калыскай. Гэта месца, дзе прайшлі мае самыя лепшыя і светлыя гады дзяцінства. Яны не забываюцца. Як сталася, што чужы кут стаў мне на нейкі час родным?

Мае карані – на полацкай зямлі, той частцы лясной старонкі, якая мяжуе з расонскімі лясамі, з нярушанай прыродай і чыстымі ляснымі азёрамі. Бацькаву сям'ю расстралялі немцы, два браты не вярнуліся з фронту, стары ягоны бацька памёр з голаду. Маёй маці, яшчэ маладой дзяўчыне, пашчасціла вярнуцца жывой з Нямеччыны. Прайшоўшы другую сусветную вайну, пачынаючы з савецка-фінскай, і вярнуўшыся на папялішча, бацька падаўся ў Полацк. Разам з маці прыехалі ў Глыбокае на працу, яны былі дробныя службоўцы, нават не службоўцы. Бацька працаваў дыспетчарам і экспедытарам, нарыхтоўчыкам і гандляром. Пакінуўшы сваю зямлю па волі лёсу, бацькі не знайшлі шчасця на чужой зямлі, як і многія іншыя.

Улады выдзелілі сям'і невялікікутокуканфіскаваным доме пана Конца. Гэта быў не маёнтак, не палац. А звычайны драўляны дом, зрублены на нямецкі вугал з дахам, мабыць, у польскім стылі. Ён не быў цалкам аздоблены ўнутры. Гаспадары, магчыма, не змаглі закончыць работы да 1939 года, потым вайна. І яны жылі толькі ў частцы дома. Мне чамусьці здаецца, што гаспадар пан Конц служыў у гміне. Для таго часу, улічваючы сацыяльны статус гаспадара, гэта была даволі сціплая прыватная ўласнасць.

Бацька ў сваім прытулку самтынкаваўсцены,складаў печку, але зімой мароз настойліва ўлязаў у вуглы, а вецер праз вялікія вокны выдуваў цяпло. Зімы тады былісур'ёзныя.Нетакхутка правялі электрычнасць. Як вечарэла, запальвалі газавую лямпу. Радыё, вялікую чорную талерку на слупе на рынку, слухалі праз возера, вельмі гучна гаварыла – так бацька даведаўся пра смерць Сталіна.

Насельнікамі яшчэ трох пакойчыкаў сталі такія ж простыя людзі. Хто з усходняй Беларусі, хто з Расіі: сем'і мастака райпрамкамбіната Аляксея Фашчэўскага, кантужанага Домата і бойкай Насці Залескіх, пакутніц маці і дачкі, істапніцы таго ж камбіната Крывёнкаў. Цэлую сям'ю перад вайной выслалі ў Сярэднюю Азію, а вярнуліся на родную Глыбоччыну ўдзвюх: нібы выкапаў бацька залатыя манеткі, не здаў дзяржаве.

Адзін з пакояў, мабыць ён быў у лепшым стане за іншыя, пакінулі сям'і пана Конца, якая складалася з чатырох чалавек. У іх былі дзеці. Ядзвіга і Рычард. Не ведаю, калі памерлі бацькі, але думаю, што заўчасна. Рычарда прызвалі ў войска, сястра, мабыць, нейкі час жыла адна, напэўна, у нястачы. Ёй прыходзілася мяняцьнейкіядробныярэчы, якія засталіся ад бацькоў, на хлеб, потым яна з'ехала. У пакоі Рычарда жылі кватарантк і – медычкі з Дома дзіцяці. Пасля таго, як ён вярнуўся з войска, адна з іх, чарнявенькая, усмешлівая Фрося стала ягонай абранніцай. Маладыя пабраліся шлюбам, жылі шчасліва і нарадзілі ў выдзеленым уладамі бацькоўскім куточку трох дачок.

Я памятаю Рысіка, так звалі яго ўсе ў нашым агульным двары, высокім, хударлявым, светлавалосым. Ён быў нешматслоўным, замкнёным, але на ягоным твары не было і ценю злосці, ці памкнення помсты. Ён ніколі ні з кім не спрачаўся, як іншыя, а на чужых дзяцей, якіх быў поўны двор, ніколі не ўзвысіў голасу, хоць мы заміналі дарослым крыкамі і гульнямі.

Рычард працаваў на будоўлі каменшчыкам ці цесляром. Людзі пачыналі пацішу будавацца. Ён вырабляў аконныя рамы, дзверы. Клаў падлогу, калі прасілі дапамагчы.

Іншы раз думаю, што можабстаўёншчаслівейшым, каб выехаў, як іншыя, у Польшчу, мог быць вайскоўцам, інжынерам, архітэктарам. Але Рычард не пакінуў бацькаўшчыну, радзіннае гняздо, зберагаў для нашчадкаў. Мабыць таму, што верыў у справядлівасць, няхай не людскую, дык Боскую. Ён узяў на сябе адказнасць за спадчыну продкаў. Магчыма, у глыбіні ягонай душы і жыла затоеная крыўда, аб якой ён нікому не гаварыў: чаму і завошта? Я зразумею гэта значна пазней, калі страчу бацькаўшчыну, калі ў роднай хаце, да кожнага бервяна якой датыкаліся бацькавы рукі, будуць жыць чужыя незнаёмыя людзі. А я нават не адважуся адчыніць брамку і папіць вады з бацькоўскага калодзежа.

Рэдка бываю ў Глыбокім. Калі праязджаю каля бацькавай хаты, шчымiць сэрца. Непадалёку – Рычардаў кут. Ён успамінаецца як таямнічы казачны куточак дзяцінства з пахучым махровым бэзам, прыгожымі півонямі, жоўтымі і фіялетавымі ірысамі, кустамі снежнай ягады, з мітуслівымі мурашкамі і зялёнымі яшчаркамі між каменьчыкаў. А луг за домам з рамонкамі, званочкамі, смаляначкамі, зязюльчынымі слёзкамі! На тым месцы даўно ўжо вуліцы горада.

Прайшло шмат часу, і гэта гісторыя мае шчаслівы канчатак. Рычард збярог дакументы на ўласнасць, і ў 90-я гады праз суд ён верне бацькоўскую спадчыну і перадасць яе дочкам Надзеі, Вользе і Наталлі. Старэйшая і малодшая жывуць у гэтым доме сёння.

Я здзейсніла сваю мару: напісала пра Рычардаў кут, дзе прайшлі самыя лепшыя дванаццаць гадоў майго дзяцінства. Рычардаў кут даў прытулак пад сваім дахам людзям, лёсы якіх зламала вайна, якія не па сваёй волі прыйшлі на чужую зямлю, пакінуўшы сваю. Пры жыцці Рычарда, мабыць, ніхто і не сказаў яму словы падзякі і... прабачэння. Я гавару гэта за ўсіх.

Беражыце бацькаўшчыну, спадчыну продкаў, каб не парывалася з ёй повязь. Каб ведалі нашчадкі, хто яны і адкуль, каб берaглі роднасць пакаленняў.

Дрэва расце і пышна зелянее толькі на роднай глебе. А перасадзі яго, можа не прыжыцца і засохне. Так бывае і з людзьмі, але яны разумеюць гэта, на жаль, позна.



Віншаванкі

Вольгу Парфяновіч

**Віншуем з Днём нараджэння!**



Якая ружа чырванее!
Яна не вяне, не старэе.
На зайздрасць восені самой
Заўсёды будзе маладой.
Няхай світанак сустракае,
Спакойна ночку засынае,
Здароўя болей дорыць неба,
І грошай будзе, колькі трэба.
Дай, Божа, дзецям добрай долі,
Не ведаць жах вайны ніколі.
Удачы ўсёй яе сям`і,
Каб ладна, шчасліва жылі.

*Калектыў «ВГ»*

# Не пакідайце пасля сябе смецце

**З надыходам цёплай пары года з кожным днём павялічваецца колькасць рыбакоў-аматараў на вадаёмах.**

■ **Аляксей Абрамчык,** *старшы дзяржаўны інспектар глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

У сувязі з чым, лічым неабходным, нагадаць, што на рыбалцы неабходна выконваць пункт 98 Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства Рэспублікі Беларусь, у якім указана, што рыбаловы, якія ажыццяўляюць аматарскае рыбалоўства, абавязаны падтрымліваць належны санітарны стан рыбалоўных угоддзяў, не пакідаць на іх берагах смецце і іншыя адходы.

Таксама прыязджаючы на рыбалку на аўтамабілі неабходна яго пакідаць на адлегласці 30 метраў ад берагавой лініі воднага аб'екта. За дадзеныя парушэнні цягне накладанне штрафу ў памеры да дваццаці базавых велічынь.

Арандатары рыбалоўных угоддзяў таксама абавязаны падтрымліваць належны санітарны стан арандаваных рыбалоўных угоддзяў. Арандатару за такое парушэнне пагражае штраф ад ста да пяцісот базавых велічынь.

Таксама мы звяртаемся да грамадзян, якія прыязджаюць у рыбалоўныя ўгоддзі проста адпачыць, не пакідайце пасля сябе смецце, не ламайце альтанкі, лаўкі, якія зроблены для вашага адпачынку.

Просьба да рыбаловаў-аматараў, не карыстайцеся рознымі чуткамі, усю неабходную інфармацыю вы можаце атрымаць у супрацоўнікаў міжраённай інспекцыі, а таксама **паведамць аб усіх парушэннях па тэлефоне даверу 8-02156-2-86-70 кругласутачна, маб. МТС 8972302, 8905528, 2494549, 6456678.**



## МНС інфармуе
**на 05.04.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 178;
Гібель людзей – 32, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 4;
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

# Гурт "Laudans" выступіў у Лучаі




**У Лучайскай парафіі 3 красавіка адзначылі свята Божай міласэрнасці. Адметнасцю свята стаў прыезд каталіцкага гурта "Laudans".**

■ **Зміцер Лупач**



Свята Божай міласэрнасці традыцыйна адзначаецца ў першую нядзелю пасля Вялікадня. А 2016 год наогул аб'яўлены ў каталіцкім Касцёле Годам міласэрнасці.

Як адзначыў ксёндз Мікалай, Божая міласэрнасць - гэта самаадданая любоў, яна невычарпальная і незразумелая для чалавечага розуму.

Гурт не толькі выступіў для вернікаў пасля Імшы, але і дапамагаў іграй і спевам весці богаслужэнне. Было вельмі прыемна чуць у касцёле мужчынскі спеў, што ў наш час здараецца не часта.

Напрыканцы Імшы госці з Шаркаўшчыны павіншавалі свайго зямляка ксяндза Мікалая Ліпскага з 9-годдзем служэння ў Лучайскай парафіі, якое святар адзначае 8 красавіка. Прыемным сюрпрызам для святара стала стварэнне ў Шаркаўшчыне трэцяй малітоўнай групы "Маргарытак".

Група "Маргарытак" складаецца звычайна з сямі чалавек, кожны з іх у вызначаны дзень моліцца за святара.

А пасля заканчэння богаслужэння "Laudans" парадаваў вернікаў сваім выступам.

Напрыканцы ксёндз Мікалай падзякаваў артыстам і запрасіў усіх на лучайскі фэст у гонар святога Андрэя Баболі, які адбудзецца ў суботу 14 мая. На фэст таксама будзе запрошаны нехта са знакамітых выступоўцаў, а вось хто, святар пакуль трымае ў тайне.

# Чысціня і парадак – залог здароўя

**Падтрымліваць чысціню і парадак на сваёй зямлі – абавязак кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь.**

■ **Ю. Самасуева,** *урач-гігіеніст*

У многіх людзей гэта становіцца добрай традыцыяй, бо ў населеных пунктах запасіцца вялікая колькасць розных адходаў, якія могуць служыць спрыяльным асяроддзем для размнажэння ўзбуджальнікаў заразных хвароб.

Спарахненні людзей і харчовыя адходы – спрыяльнае асяроддзе для размнажэння мух і грызуноў, якія з'яўляюцца пераносчыкамі шэрагу інфекцыйных захворванняў. Такія адходы як смецце, фекаліі, могуць змывацца даждживымі водамі ў рэкі, азёры, сажалкі і забруджваць іх.

Неабходна прымаць меры, якія забяспечваюць правільнае захоўванне, своечасовае выдаленне, абясшкоджванне і выкарыстанне бруду і адходаў.

Цвёрдыя адходы ў домаўладаннях варта збіраць у вёдры і выносіць у смеццезборнікі або заключаць дамовы на своечасовы вываз смецця.

Забараняецца зліваць вадкія бытавыя адходы на тэрыторыі зямельнага ўчастка, прылеглай тэрыторыі.

Дваровыя прыбіральні павінны быць аддаленыя ад жылых будынкаў, тэрыторый дзіцячых устаноў, школ, пляцовак для гульняў дзяцей і адпачынку насельніцтва, спартыўных пляцовак не менш за 20 м. Выграб неабходна рабіць воданепранікальным.

Ачыстку варта праводзіць па меры яго запаўнення, але не радзей за 1 раз у паўгода.

Памяшканні дваровых прыбіральняў павінны утрымлівацца ў чысціні. Не радзей за адзін раз на тыдзень праводзіць іх дэзінфекцыю. Падлогу варта апрацоўваць 1% растворам хлорказай вапны.

Пры утрыманні свойскіх жывёл на прыхатняй тэрыторыі ўіндывідуальных жылых забудовах пры назапашванні гною - найлепшы спосаб абясшкоджвання яго - кампаставанне. У працэсе паспявання кампоста раскладаюцца гнілыя рэчывы, гінуць мікробы, яйкі глістоў і адходы ператвараюцца ў бясшкодны у санітарным дачыненні матэрыял, які можна выкарыстоўваць для ўгнаення.

Для падтрымання пастаяннай чысціні ў населеных пунктах домаўладальнікі і арандатары індывідуальных жылых дамоў абавязаны:

■ строга захоўваць чысціню і парадак на прысядзібным участку і прылеглай да домаўладання тэрыторыі да восі праезнай часткі вуліцы па ўсёй даўжыні ўчастка;

■ не дапускаць спальвання адходаў на тэрыторыі зямельных участкаў, размешчаных у межах населеных пунктаў;

■ трымаць у чысціні тратуары, прылеглыя да ўчастка, у зімовы час года своечасова чысціць іх ад снегу і лёду;

■ своечасова праводзіць скошванне пустазелля, не дапускаць зарастання тэрыторыі быллём;

■ своечасова ажыццяўляць вываз у вызначаныя месцы цвёрдых і вадкіх адходаў з тэрыторыі домаўладання;

■ не выліваць гаспадарча-бытавыя (камунальныя) сцёкавыя воды на вуліцы, у ліўневую каналізацыю, вадаёмы, не праводзіць адпампоўку вады з цеплавых і водаправодных калодзежаў на газоны, тратуары, дарогі;

■ не праводзіць мыйку аўтатранспарту на вуліцах, ля водаразборных калонак, вадаёмаў і ў іншых месцах агульнага карыстання;

■ не дапускаць захоўванне дроў больш за 72 гадзін, торфу, вугалю, гною, будаўнічых матэрыялаў і будаўнічага смецця на прылеглай да дамоў тэрыторыі і праезнай часткі вуліцы.

